I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Красавік-2 2016
Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

ГумНо СПАРТЫIУНАЕ

## БАТЭ:

## над ужываннем мовы нашай мы ўсе працуем кожны дзень

## Праблема беларускамоўнасьці




стар. 1

# БАТЭ: над ужываннем мовы нашай мы ўсе працуем кожны дзень

***У арыгінальным адказе на ліст арганізатара кампаніі "Справаводства па-беларуску" барысаўчане ўзгадалі Дэвіда Боўі, пажадалі ўсім цукру ў гарбаце і лавэ ў гаманцы.***

Генеральны сакратар БАТЭ Андрэй Вашкевіч напісаў верш на беларускай мове, у якім распавёў, як "жоўта-сінія" выкарыстоўваюць "родную мову", паведамляецца на афіцыйнай старонцы барысаўчан у сацыяльнай сетцы "ВК".

Напісанне верша стала арыгінальным адказам барысаўчан на запыт арганізатара кампаніі "Справаводства па-беларуску" Ігара Случака.

Случак ў афіцыйным лісце да кіраўніцтва клуба задаў шэраг пытанняў, у прыватнасці: калі з'явіцца беларуская версія сайта, імёны футбалістаў на форме будуць пісаць па-беларуску, а таксама шэраг іншых.

"Шаноўны Ігар! У першую чаргу,
Вялікі дзякуй Вам за віншаванні!
Зімовую маркоту і тугу
Мы гналі ад сябе падчас чакання

Сезона новага. Нарэшце, вось і ён
Пагрукаўся і ў нашае акенца!
І клуб наш — шматразовы чэмпіён —
Ужо адчыніў сваёй "Арэны" сенцы.

І Ваш зварот — вясновая прыкмета —
Прыйшоў да нас ужо ў чацвёрты раз.
Канешне, мы ўдзячныя за гэта
І пішам Вам чарговы наш адказ.

Над ужываннем роднай мовы нашай
Мы ўсе ў БАТЭ працуем кожны дзень
Стараецца іВаладзько наш Саша,
Стараецца і Ліхтаровіч-Дзед.

У Дудзінцы — толькі "раніца", не "утро".
У Дудзінцы не "арбуз" які — "кавун"!
І хутка скажа "Смачна есці!" Дубра,
І "Дзякую!" адкажа наш Мілун.

Не ўсё так проста, але не сумуем,
І спадзяемся, будзе толькі лепш.
Мы мовай карыстаемся, працуем,
Пакуль не ідэальна, не, але ж…

На форме мова ў Лізе чэмпіёнаў,
У сацсетках нашых мова часцяком.
Прафесар наш, Віталька Радзівонаў, —
Ён мовы правадыр у кожны дом.

Наш шчыры дзякуй Вам за прапановы,
Іх будзем усебакова разглядаць.
Барысаўшчына — край народнай мовы,
Яе тут прагнуць людзі зберагаць.

Напрыканцы жадаем вам здароўя —
Яго ж ані купіць, ні намяняць
(Вы ж разумееце: калі ўжо Дэвід Боўі…
Дык што тады яшчэ пра нас казаць?).

Жадаем міру блізкім, шчасця ў хату,
У гарбаце цукру, у гаманцы — лавэ!
Наступным годам Ваш чакаем пяты
Зварот да клуба.

Шчыра Ваш, А.В.

Генеральны сакратар ФК БАТЭ Андрэй Вашкевіч".

Раней старшыня клубнага праўлення Анатоль Капскі заявіў, што БАТЭ пяройдзе на беларускую мову, калі не зможа без гэтага жыць. "Мы пяройдзем на беларускую мову не як даніна модзе. Мы пяройдзем тады, калі зразумеем, што без гэтага не можам жыць. Да гэтага на самай справе трэба імкнуцца. Але мне вельмі не падабаюцца імгненныя рашэнні", — сказаў Капскі.

*bel.sputnik.by*



# Галоўныя супернікі ФК Гомель у Сезоне 2016 - Дняпро, Тарпеда Мінск, Смаргонь і Смалявічы

***15 красавіка адбылася сустрэча ФК Гомель з заўзятарамі.***

Галоўныя моманты, што зацікавілі мяне наступныя:

- Прозвішчаў па-беларуску ў сезоне 2016 на форме Гомеля не будзе. Але не будзе іх і па-руску - замест іх, як і дазваляе рэгламент 1-й лігі будзе рэклама.

- Гульні будуць праходзіць на стадыёне Цэнтральны - хоць і нельга сказаць, што так будзе напрацягу ўсяго сезона.

- Частка стадыёна на першай гульні з Оршай будзе перакрыта, бо не будзе сьцюардаў - будуць адкрыты толькі трыбуны з 22 па 5-ю + 13 і 14 фанацкія сектары.

- Павел Сітко прызначаны адзінаасобным рашэннем галоўнага трэнера Валерыя Жураўля капітанам як самы вопытны гулец.

- Праграмкі да гульняў будуць толькі ў электронным выглядзе.

- Галоўнымі супернікамі галоўны трэнер назваў Дняпро, Смаргонь, Смалявічы і Тарпеда Мінск. З этычных меркаванняў, як мне падалося, назваў яшчэ ў ролі галоўных супернікаў і Гомельчыгункатранс.

- Наконт Дняпра Журавель адзначыў, што гэта вопытная каманда, што на 80% складаецца з гульцоў пагуляўшых не адзін сезон у Вышэйшай лізе.




- Смаргонь Журавель ахарактэрызаваў як моцны клуб, а Смалявічы - як клуб, што адрадзіўся і аб'яднаўся з БАТЭ, за кошт чаго таксма ўяўляе канкурэнцыю (гэта не цытата, а мой вольны пераказ)

- Наконт Тарпеда Мінск Журавель адзначыў, што клуб калі не ў гэтым сезоне, то ў наступным ставіць за мэту быць у Вышэйшай лізе.

- Уваход на гульню з Оршай будзе вольны, бо не атрымалася дамовіцца аб умовах з квітовым аператарам (у мінулым годзе былі Квіткі). З наступнай хатняй гульні з Прамянём уваход будзе платным. Квіток будзе ўяўляць з сябе флаер з лагатыпамі спонсараў да якога будзе прышчэплены касавы чэк. Можна замаўляць месца пад рэкламу на флаеры.

- Галоўная мэта на сезон - выхад у Вышэйшую лігу і па магчымасці першае месца ў 1-й лізе.

- МУС даў дазвол на продаж піва каля стадыёна ў стацыянарных кропках. Бліжэйшая з такіх кропак - бар Андэграунд, што месціцца якраз на самім стадыёне.

- Магазін клубнай атрыбутыкі адчыняцца не будзе, бо, па словах дырэктара Віталя Кушнера, гэта не выгадна.

- Арэнда стадыёна ў гэтым годзе стала ў разы меншай, таму клуб спадзяецца пакрываць яе за кошт проданых квіткоў.

Такі вось атрымаўся мой схематычны агляд сустрэчы.

*Ігар Случак*

# Хахлуха

***У Шуры ёсць толькі сабака Палкан. Ён брэша на мяне здалёк, блізка падысці не асмельваецца.***

— Палкан есці хоча, — кажу. — Ты б пакарміў яго.

— Маць яго дыхала! Няхай падохне! То паскудны сабака.

— Дзядзька Валодзя казаў, што Палкан ваўкоў ганяе.

— Срэцца ён, а не ганяе. Пшоў! Пшоў!












Мы ўвайшлі ў кухню. Гадоў дзесяць таму памерла Шурава матка, то ён увесь час жыве адзін.

— Колькі ў цябе пакояў?

— Мо то тры. Ат, не ведаю! Я ў хату не хаджу. Там халодна. Я тут жыву.

Кухня падобна на гараж майго брата. Я ссунуў з прыслона ворах смярдзючых анучак, сеў.

— Скідай. Халера яго бяры. То цётка не прыбрала.

Раз на месяц да Шуры з Аўцюкоў ходзіць цётка, прыбірае ягонае кубло. Але Шура не любіць той дзень, бо цётка сварыцца.

— Ат, паскуда, як мой Палкан. Толькі брэша. Укусіла б, дык забіў бы.

Шура дзьме ў шклянкі, каб вылецела смецце, працірае іх засаленай анучай.

— Зараз вып’ем. Гэта маё, сам гнаў. Недзе агурок быў. Не, дзядзька, я агуркі ў суботу з’еў, выбачай. На, хлебам занюхай.

Мне піць не хочацца. Але мушу хаця б выгляд рабіць, што п’ю, бо Шураў нораў добра ведаю. Мужык ён спакойны, а потым як храсне па галаве — і не паспееш з хаты выбегчы.

— Зламала мне ўсё жыццё тая хахлушка. Але нічога, жыву не горай за іншых. Хата е, рукі е, галава е.

Пра якую хахлушку ён гавора, я яшчэ не разумею, але ўжо здагадваюся, што сёння мы п’ём пад размовы пра жанчын.

На кухні цёмна. Адзінае невялічкае акенца выходзіць на поўнач. Лямпачка пад столлю свеціць цьмяна. Гнілое паветра становіцца цяжкім ад смуродных Шуравых цыгарэт. Але я сяджу і цярпліва трымаю ў руках шклянку. Шура выпівае мо то трэцюю.

— А-а-а, я табе ўжо наліў? — далівае толькі сабе.

Сядзім моўчкі. Цішыня становіцца невыноснай, але я не намагаюся яе парушыць. Шура доўга глядзіць на нож, што ляжыць на стале. Я думаю: вось скончыцца цішыня, скажу далікатна, што хачу пайсці да ветру. І вазьму з сабой заплечнік. Пакуль Шура дацяміць, што я збег, я буду ўжо ў Аўцюках, то не дагоніць. А мо і не дазнаецца, упадзе і засне.

— Сука! — ён раптам б’е па стале кулаком.

Я разумею, што пайсці да ветру — ужо не хітрык, а тэрміновая патрэба.

— Усё жыццё мне спаганіла! Чаго прысунулася? Заб’ю, сука!

У нашай размове настае той момант, калі дыялог узнікае паміж Шурам і ягоным нябачным суразмоўцам. А я станаўлюся выпадковым сведкам, які мае шанец за подслух быць пабітым. І сеў жа так нязручна — Шуру ніяк не абмінуць, калі раптам давядзецца бегчы.




— Заб’ю, хахлуха!

Алеся — ніякая не хахлуха. Яна з аўцюкоўскіх дзевак. Калі Шура ў войска пайшоў служыць, яна выскачыла за ўкраінца і з’ехала да яго пад Чарнігаў. Шура вярнуўся і забыўся, што такая была. Пачаў ездзіць на трактары, да дзевак чапляцца. Калі халодна, то ў качагарку іх вадзіў, а калі цёпленька, то ў хвойнічак. Рукамі ўмеў не толькі аўцючак мацаць, мог з трактара зрабіць верталёт і паляцець на ім. То ягоная матка — тады яшчэ жывая была — не сумнявалася, што сына некалі ўчэпіць самая спрытная аўцючка і не адчэпіцца ад яго. То будзе лад, як ва ўсіх. Усе хлопцы так — гуляюць, гуляюць, а потым:

— Матко, рэж кабанчыка, бо я жанюся.

— Жаніся, сынку, дай вам Божанька шчасцейка ды дзетак здаровенькіх. Ды каб сонейка ў вашыя вокны пазірала.

А пакуль учэпістая аўцючка не патрапілася, Шура гуляў, колькі хацелася маладому целу.

Але вярнулася ў вёску тая Алеся. Гадоў мо шэсць ці сем яе не было. А тут прыехала з чамаданам да сваіх бацькоў. Быццам бы муж прагнаў яе з хаты. А людзі не дурныя былі, вушастыя, то і дачуліся, што мужык ейны памёр.

Шура на трактары ехаў, а тут Алеся шлях пераходзіла. Зірнула на яго — Шура і зніякавеў.

Матка вечарам баршчу наліла, хлопец есці не стаў. Ранкам памыўся і паехаў да Алесі. Стаў ля хаты, дзе яна жыла. Хвілінаў праз пятнаццаць Алеся выйшла, ізноў зірнула на яго.

— Ты, Шура, мо хочаш мяне на сваім трактары пакатаць? То ў мяне спадніца непрыгожая. А трактар у цябе — вунь які прыгожы.

Шура згубіўся ды моўчкі з’ехаў.

З тых часоў яго бы падмянілі. Перастаў вадзіць дзевак у хвойнік. Пасля працы ехаў дадому. Стаў маўчаць ды нешта сабе думаць.

З’явіўся ў Шуры сакрэт. За хлявом пад навесам ён выразаў з вялікай калоды Алесін бюст. Калі той быў амаль гатовы, суседскія хлапчукі ўгледзелі ды пусцілі плётку па вёсцы: Шура закахаўся ў Алеську і хоча ёй помнік з фантанам паставіць пасярод двара. Ён так раззлаваўся ў той дзень, што сякерай раздроб бюст і спаліў.

А аднойчы моцна напіўся, прыйшоў да Алесінага акна, каб прызнацца ва ўсім, але не хапіла смеласці — і Шура заплакаў. А яна неяк угледзела тое і назаўтра пасмяялася з яго:

— Ты, Шура, калі яшчэ плакаць захочаш, то прыходзь. Толькі не пад вокнамі плач. А ў агародзе, бо памідоры сохнуць.

Шура стаў піць часцей. Матка глядзела-глядзела на яго хваробу, ды не вытрывала — памерла. А Алеся доўга ў вёсцы не ўседзела, пайшла на нейкія курсы і з’ехала ў Каленкавічы.

Я глядзеў на сваю пустую шклянку і думаў, што ўжо не баюся Шуру. Ужо не страшны ён. Не можа быць страшным чалавек, які носіць пад сэрцам боль.

— Я табе пакажу яе.

Шура падняўся з табурэта, але не ўстаяў і ўпаў. Я дапамог яму падняцца.

— Нармальна, нармальна, дзядзька. Я шчэ не п’яны.

Ён пакорпаўся ў анучах на печы і дастаў адтуль невялікую фотакартку. З яе паглядала маладая ўсмешлівая дзяўчына.

— Во, глядзі якая паскуда.
— Прыгожая.
— Х*ёжая! То паскуда!
— Я і бачу, што ты спіш з ёю на адной печы.
— Ты, дзядзька, мусіць, даўно аўцюкоўскага кулака блізка не бачыў? То я пакажу табе.

Не, не можа быць страшным чалавек, які носіць пад сэрцам боль.

Заначаваў я ў дзядзькі Валодзі. Ноччу сасніў Алесю. Мы елі памідоры ў агародзе, а Шура стаяў там нібы пудзіла і плакаў.

Зранку пайшоў я на аўтобусны прыпынак. Палкан здалёк пачаў прыветліва брахаць на мяне. Шура неспакойна мераў крокамі даўжыню бардзюра. Ён быў памыты і паголены. Пах адэкалона перабіваў пах хвояў у лесе.

Мяне Шура не пазнаў, бо быў цвярозы, але падобны на брагу: нешта ўнутры яго бурліла, не давала стаяць на адным месцы.

Бы чужыя адзін аднаму, мы моўчкі ўглядаліся ў сіні плот, скуль мусіў павярнуць аўтобус на Каленкавічы.

*Андрусь Горват, в. Прудок, Калінкавіцкі раён*

# Калегі пра гомельскага бляхара з нажом, які ледзь не забіў 4-гадовую дзяўчынку і яе бабулю: «Раніцай анекдоты расказваў, а пасля абеду такое вырабіў»

***Сталі вядомыя падрабязнасці рэзананснага злачынства ў Савецкім раёне Гомеля, у выніку якога пацярпелі 56-гадовая бабуля і яе 4-гадовая ўнучка.***

Нагадаем, 15 сакавіка сярод белага дня 26-гадовы гамяльчанін, цалкам распрануўшыся, увайшоў у пад'езд дома на вуліцы Дзяржынскага, 1а. Ён пачаў торгаць дзвярныя ручкі, і як назло адныя дзверы аказаліся не замкнутымі. Прайшоўшы на кухню, мужчына схапіў нож і напаў на гаспадыню кватэры і яе чатырохгадовую ўнучку. На крыкі прыбег сусед, які абеззброіў незнаёмца, выклікаў хуткую і міліцыю. Бабуля з унучкай былі дастаўлены ў рэанімацыю. Стан дзяўчынкі стабільны, у лекараў няма боязі за яе жыццё. Жанчына атрымала множныя нажавыя раненні. Гомельскія лекары літаральна выцягнулі яе з таго свету. Пацыентку ўжо перавялі з рэанімацыі ў звычайную палату.

Нападнік тым часам утрымліваецца ў псіхіятрычным шпіталі пад канвоем. Агляд не паказаў наяўнасці ў яго крыві алкаголю, аднак ужо вядома, што падзеям папярэднічаў працяглы запой. У момант здзяйснення злачынства падазраваны павінен быў знаходзіцца не на вуліцы Дзяржынскага, а на прадпрыемстве «Рубін», дзе працуе бляхаром 4 разраду. Ён з'явіўся там раніцай, з'ездзіў з прарабам на аб'ект у Касцюкоўку, вярнуўся на базу і сышоў на абед… Днём раней ён быў у кабінеце дырэктара — пісаў тлумачэньне, чаму не выйшаў на працу 9, 10 і 11 сакавіка.

«Апахмельваўся пасля 8 сакавіка, перабралі. Прачнуўся ў цягніку на Мінск. Доўга шукаў грошы на зваротны шлях. Вярнуўся ў Гомель позна. На працу праспаў, прачнуўся толькі да абеду. Тэлефон разрадзіўся, таму патэлефанаваць не змог», — сцісла выклаў прычыну бляхар.

За прагулы яго пакаралі, але не звольнілі.

— Такія спецыялісты на вуліцы не валяюцца. П'яным ён ніколі не быў заўважаны. Увесь час працаваў на вышыні. Хто чалавека з пахмелля на дах дапусціць? У нас з гэтым вельмі строга, — характарызуе падначаленага дырэктар.

Кіраўніка падтрымлівае прараб:

— Ды якія там падставы?! Ён самы адказны на ўчастку, ды да таго ж двухжыльны. У сезон рамонту дахаў па восем гадзін пад ліхтарамі працаваў. Трэба было, і ў суботу выходзіў. Паралельна адвучыўся на стропальшчыка.

Тое, што здарылася 15 сакавіка на Дзяржынскага, усіх у калектыве шакавала. Ніхто яго ўчынак не апраўдвае. Проста не могуць зразумець, што з іх Жорыкам (так яго называюць па сугуччы з прозвішчам) адбылося. Раніцай жартаваў, анекдоты распавядаў, а пасля абеду такое здзейсніў.

Гарадскім аддзелам следчага камітэта заведзеная крымінальная справа па факце замаху на забойства дзвюх асоб. Праводзіцца шэраг экспертыз, высвятляюцца матывы здзейсненага злачынства.

*gomel.today*

# У Рагачове двое маладых людзей адкрылі купальны сезон, у выніку адзін патануў

***Здарэнне адбылося на беразе ракі Друць адпачывала кампанія. Двое маладых людзей вырашылі выкупацца. У выніку адзін патануў, паведамілі ў МНС.***

Відавочцы паведамілі аб тым, што здарылася ў МНС. Да месца выкліку была накіравана выратавальная група Асвод.

Вадалазы дасталі патанулага з двухметровай глыбіні. Ратаваць мужчыну было ўжо позна.

*news.tut.by*



# У Мінску затрымалі немца, які вербаваў гамяльчанак для заняткаў прастытуцыяй: абяцаў 2—7 тысяч еўра, траіх завербаваў, адна зрабіла візу

***Аператыўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Гомельскага УУС затрымалі ў Мінску 44-гадовага грамадзяніна Германіі, які вербаваў дзяўчат для занятку прастытуцыяй.***

Яшчэ знаходзячыся ў Германіі, ён праз сацыяльныя сеткі знаёміўся з сімпатычнымі беларускамі і пачынаў перапіску. Пасля прамацвання глебы прапаноўваў хуткі і высокааплатны заробак у Еўропе, пры гэтым адразу папярэджваў, чым прыйдзецца займацца.

Паводле яго расказаў, у бардэлях яны маглі зарабляць ад двух да сямі тысяч еўра.

«Многія казкам верылі і давалі згоду на асабістую сустрэчу для абмеркавання дэталяў працы. Падазраваны ў канцы красавіка прыехаў у Беларусь для больш дэталёвага знаёмства з будучымі жрыцамі кахання», — паведаміў супрацоўнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама Ігар Грышкевіч.

У Гомелі мужчына сустрэўся з трыма дзяўчатамі, папрасіў іх зрабіць эратычнае партфоліа нібыта для дэманстрацыі гаспадару бардэля для ўзгаднення знешнасці. Ужо на месцы ён абгаварыў дэталі. Дзяўчаты павінны былі афарміць шэнгенскую візу.

Іншаземец практычна з першых дзён знаходжання ў Беларусі быў у полі зроку супрацоўнікаў міліцыі. Аднак адразу затрымліваць яго не сталі, бо было вядома пра яго жаданне выехаць на некалькі дзён у Мінск. Разумеючы, што ў сталіцы таксама могуць знаходзіцца патэнцыйныя ахвяры, а таксама магчымыя саўдзельнікі злачыннай дзейнасці, было прынята рашэнне працягнуць назіранне і быць гатовымі ў любы момант да затрымання. Для гэтага з Гомеля акрамя аператыўнікаў наркакантролю для сілавога захопу выехалі супрацоўнікі АМАПа палка ППСМ УУС і прадстаўнік Следчага камітэта.

Пасля прыезду ў Мінск мужчына таксама правёў некалькі сустрэч з дзяўчатамі. Толькі пасля гэтага была аддадзена каманда на затрыманне замежнага грамадзяніна.

«З'яўленне байцоў спецпадраздзялення для яго было шокам. Першы час ён нават не мог зразумець, што ж адбылося за тыя секунды, як яго паклалі «тварам у асфальт», — адзначыў Грышкевіч.

Іншаземец арыштаваны і знаходзіцца ў следчым ізалятары. Падчас папярэдняга расследавання стала вядома, што ўсіх дзяўчат ён планаваў прадаць у адзін з бардэляў у Германіі. За кожную з іх яму паабяцалі заплаціць не менш за тысячу еўра, а пры выдатных знешніх дадзеных сума магла ўзрасці ў некалькі разоў. Для гэтага яму і патрэбны былі фатаграфіі дзяўчат, каб пачаць загадзя таргавацца з пакупніком.

Паводле інфармацыі міліцыі, мужчына паспеў атрымаць згоду на выезд трох жыхарак Гомельскай вобласці і трох мінчанак, у адной з якіх ужо была гатовая віза.

*uvd.gomel.by*




- Я чакаю непрыстойных прапаноў.
- Давай есці дранікі з кетчупам!
- Гэта ўжо перабор.

# У першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе выступяць 14 каманд замест 16

***Пра гэта паведамілі ў прэсслужбе асацыяцыі «Беларуская федэрацыя футбола».***

Футбольныя клубы «Кобрын» і «Узда» так і не прадаставілі федэрацыі ўсе неабходныя дакументы для ліцэнзавання і таму не змогуць згуляць у другім дывізіёне нацыянальнага першынства. Такое рашэнне было прынята на сённяшнім пасяджэнні апеляцыйнага камітэта АБФФ.

Такім чынам, у красавіку барацьбу за выхад у вышэйшую лігу пачнуць тры прадстаўнікі Мінска — «Зорка-БДУ», «Прамень», «Тарпеда», а таксама «Гомель», «Гомельчыгтранс», «Орша», «Баранавічы», «Ліда», «Ашмяны», «Слонім», «Смалявічы-СТІ», «Смаргонь», магілёўскі «Днепр» і светлагорскі «Хімік».

Каманды правядуць матчы дома і ў гасцях. Па яго выніках дзве лепшыя каманды атрымаюць права выступіць у наступным сезоне ў элітным дывізіёне беларускага футбола. Яны заменяць двух няўдачнікаў вышэйшай лігі.

*БелТА*




## Факты

Топ-10 найбуйнейшых гарадоў (у дужках прырост за год)

Мінск — 1 959 781 (+21501)
Гомель — 521 452 (+4476)
Магілёў — 378 077 (+3422)
Віцебск — 368 574 (+2275)
Гродна — 365 610 (+4258)
Брэст — 340 141 (+4496)
Бабруйск — 217 975 (-288)
Баранавічы — 179 122 (+233)
Барысаў — 143 919 (-1026)
Пінск — 138 415 (+896)

M&S MEDIA

Непэрыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Красавік-2 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на паперовай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA